

DISTRICTUS

# ПАВЕТ

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 3 (40) ЛІПЕНЬ 2005 г.



# 1065 БРАСЛАВУ - 940 2005



*У стагоддзях трывуча стаяў*
*На нагорку старым Брачыслаў.*
*У нагоду, асенняю золь*
*Мала радасці меў, толькі боль.*
*Мо [illegible]ое тае даўніны*
*Прыплываюць к прычалу чаўны?*

**Святлана Лоба[illegible]**

Падборку матэрыялаў па гісторыі Браслава чытайце на 2-8 старонках

# ВЫСТАВА ПРЫСВЕЧАНАЯ ЮБІЛЕЮ

У памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея працуе выстава "Юбілей Браслава. 1065 – 2005 гг.". Яе экспазіцыя адчынілася ў траўні і будзе працаваць да канца кастрычніка. Арганізатары выставы імкнуліся, каб яе пабачыла як мага больш школьнікаў і гасцей горада. Гэта – ужо чацвёртая юбілейная выстава, прысвечаная Браславу. Папярэднія дзейнічалі ў 1990, 1995 і 2000 гадах. Кожная з іх вызначалася ўласнай канцэпцыяй і непаўторнасцю. І на гэты раз арганізатарам удалося падабраць матэрыялы, большасць з якіх наведвальнік убачыць упершыню. Гісторыя Браслава паўстае праз яскравыя эпізоды і з'явы.



**Такім уяўляецца князь Брачыслаў мастаку Арлену Кашкурэвічу. 1995 г.**

Першы раздзел выставы акцэнтуе ўвагу на постаці князя Брачыслава, з іменем якога звязваюць узнікненне Браслава і лаходжанне назвы паселішча, і на даследаваннях старажытнага браслаўскага замчышча. Музей зберагае поўныя калекцыі археалагічных раскопак Замкавай Гары ў 1989 і 1990 гадах, аднак на стэнды трапілі найбольш рэдкія цікавыя знаходкі. Сярод іх: грабеньчык надрапаным малюнкам, хрысціянскія крыжыкі і амулет часоў двухвер'я.

Змястоўным атрымаўся раздзел з адлюстраваннем Браслава на гістарычных картах і планах. Бадай, упершыню прадстаўлена столькі матэрыялаў. Аднак гэта толькі частка таго, што захоўваецца ў музейнай калекцыі. Можна ўбачыць копіі карт XVI – XVIII стст. і прасачыць, як змяняўся вобраз Браслава і азёрнага наваколля на еўрапейскіх і рэгіянальных картах. Ёсць арыгіналы тапаграфічных карт XIX – першай паловы XX стст. Дэманструюцца картаграфічныя выданні, у тым ліку даволі рэдкія. Некаторыя з іх маюць аўтографы вядомага даследчыка картаграфіі прафесара Станіслава Александровіча, карані якога з Браслаўшчыны.



**Брачыслаў Ізяслававіч (? - 1044) Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу XVI ст.**

Надзвычай цікавая падборка планаў Браслава ад пачатку XIX ст. па канец XX ст. Большасць планаў выяўлена падчас архіўных пошукаў у Вільні, Каўнасе, Маскве. Самы цікавы план – сярэдзіны XIX стагоддзя – знойдзены ў Браславе, у архіве праваслаўнай царквы. Планы дазваляюць прасачыць, як змянялася структура вулічнай забудовы паселішча на працягу двух стагоддзяў. Першыя планы фіксуюць у Браславе заледзьве пару дзесяткаў сяліб, а на плане з карты Нацыянальнага парка Браслаў налічвае звыш 130 вуліц і завулкаў.

Раздзел "Асобы ў гісторыі Браслава" змяшчае матэрыялы пра дзеячаў, якія мелі дачыненне да мінулага горада. Гэта пераважна партрэты. Асаблівая ўвага нададзена Аляксандру Ягелончыку, вялікаму князю літоўскаму, які наведваў Браслаў, надаў яму няпоўнае Магдэбургскае права, надаў фундуш касцёлу. Яго жонка Алена (на выставе ёсць і яе выява) валодала горадам, пры драматычных абставінах памерла ў браслаўскім замку. Можна ўбачыць розныя партрэты лекара Станіслава Нарбута, асобы легендарнай ў гісторыі Браслава. Лепшы партрэт створаны мінскім мастаком Уладзімірам Кандрусевічам. Экспануецца таксама партрэт знакамітага браслаўскага гісторыка Отана Гедэмана працы У.Кандрусевіча, падараваны музею падчас адкрыцця персанальнай выставы мастака ў Браславе.

Асобны раздзел прысвечаны гарадскому сімвалу Браслава – гербу "Вока Божага Провіду". Нададзены ў

1792 годзе. Цяпер ён мае статус афіцыяльнага сімвала горада і Браслаўшчыны. На двух стэндах – архіўныя дакументы, розныя выявы герба.

Экспанаты з раздзела "Браслаў на паштоўках" неаднойчы паказваліся на розных выставах. Аднак калекцыя паштовак увесь час папаўняецца. Адшукваюцца ўсё новыя паштоўкі даваеннага перыяду, выпускаюцца новыя. Музей валодае самай поўнай падборкай друкаваных паштовак 20–30-х гадоў ХХ ст. з фотаздымкамі браслаўскага фатографа Адольфа Бейнаровіча. Іх можна ўбачыць на стэндах, як і выданні сучасных паштовак.

Пераважна новыя знаходкі выстаўлены ў раздзеле "Браслаў на старых фотаздымках". Са старых пажоўклых картак паўстаюць віды вулачак, асобных пабудоў, Замкавай Гары і азёраў.

Раздзел "Браслаў вачыма мастакоў" змяшчае рэпрадукцыі з замалёвак Напалеона Орды і Дзмітрыя Струкава ХХ ст., працы сучасных мастакоў: Наталлі Паплаўскай, Уладзіміра Кандрусевіча (Мінск).Тэафана Баркоўскага (Браслаў).

Завяршае экспазіцыю выставы падборка выданняў, прысвечаных Браславу.

## *Выдавецкія навіны*

Да летняга сезона 2005 года мінскае выдавецтва "Рыфтур" выпусціла некалькі дзесяткаў паштовак з відамі розных мясцовасцей Беларусі. Некалькі сюжэтаў датычацца Браслаўшчыны і ў прыватнасці Браслава. На ўсіх паштоўках змешчаны фотаздымкі Сяргея Плыткевіча. На адной з паштовак фотаздымак зроблены з верталёта паказана частка горада, размешчаная на вузкім перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята. Як на далоні, відаць усё возера Навята, забудова паўночна-усходняй часткі горада, адкрываюцца віды на азёрнае наваколле. Яшчэ адзін сюжэт з Браславам уключаны ў камплект паштовак "Нечаканая Беларусь. Гарады і вёскі з вышыні птушынага палёту". У кадры усходняя частка Браслава, таксама знятая з верталёта, у атачэнні возера Дрывяты. Захапліваеў маляўнічасць прыроднага наваколля Браслава. Удалы не толькі здымак, але і тэкст (аўтар Анатоль Варава). Вось яго фрагмент: "*Насамрэч падаецца, нібы невялікі, з дзесяццю тысячамі жыхароў, Браслаў быў выверjаны з воднай стыхіі і пастаўлены моцнай далонню прыроды на перашыек-узгорак, каб людзі маглі вечна захапляцца гэтымі далягладамі, адшукваць для іх кожным разам новыя цудоўныя параўнанні. Дарэмна! Паэзія браслаўскіх краявідаў, якія ўвабралі ў сябе, бадай, усе фарбы неба, непадуладныя словам. Але ж дзякуючы гэтаму фотамастацкаму позірку зверху, можна хаця б у якой-небудзь ступені адчуць шырыню і раздолле прыродных карцін, чарадзейства зеляніны і пясчаных берагоў, выспаў, водмелей, сярод якіх пасяліўся гэты казачны гарадок*".




**Браслаў. Возера Навята і Замкавая Гара.** ***Даваенная паштоўка з серыі, падрыхтаванай мясцовай краязнаўчай арганізацыяй. Фотаздымак Адольфа Бейнаровіча***

Цудоўныя паштоўкі, падрыхтаваныя выдавецтвам "Рыфтур", на жаль, не здолелі цалкам задаволіць попыт шматлікіх гасцей горада. Такі значны турысцкі цэнтр, як Браслаў, павінен прапаноўваць дзесяткі прывабных паштовак на любы густ. Гэта можна назіраць у любой цывілізаванай краіне. Так было ў Браславе да вайны. За 20 – 30-я гады ХХ стагоддзя было падрыхтавана каля 20 друкаваных паштовак і некалькі дзесяткаў відаў фотапаштовак. Колькасць відаў паштовак, выдадзеных больш чым за 50 гадоў ад паловы мінулага стагоддзя, наўрад ці дасягае дзесяці.

Можа, паштоўкі выдавецтва "Рыфтур" – ластаўкі кардынальных змен у гэтай справе?..



**Браслаў. Паштоўка з камплекта «Нечаканая Беларусь». Фотаздымак Сяргея Плыткевіча**

Меркавалася, што акурат у юбілейны год пабачыць свет кніга К.Шыдлоўскага, прысвечаная Браславу. Яе рабочая назва "Браслаў. Места, што пад гарой Замкавай асела". (Штрыхі да гістарычнага партрэта горада). У кнізе аўтар абагульняе той багаты гістарычны матэрыял, які быў назапашаны за некалькі дзесяткаў гадоў архіўных і бібліятэчных пошукаў. Нажаль выданне працы адкладваецца на няпэўны час. Прапануем увазе чытача фрагмент першага раздзела працы, які прысвечаны назве Браслава. Усяго ў кнізе 11 раздзелаў, у іх ліку : "Азёрная калыска Браслава", "Адкуль пачынаўся горад", "Сталічнае месца для свайго павета", "Пад Вокам Божага Провіду", "Браслаўцы – хто яны?", "Шляхі, што вялі праз Браслаў, шляхі, што вядуць у Браслаў" і іншыя.

# *Пра назву Браслава і гарадскую тапаніміку*

*У стагоддзях трывуча стаяў*
*На пагорку стары Брачыслаў.*
*У нагоду асеннюю золь*
*Мала радасці меў, толькі боль.*
*Мо з сівое тае даўніны*
*Прыплываюць к прычалу чаўны?*

**Святлана Лобач**

Браслаў?- перапытвае адміністратарка гатэлю - Гэта дзе, у Польшчы ці Чэхаславакіі? Мы з прыяцелем уладкоўваемся на начлег не ў далёкім замежным горадзе, як можа падасца чытычу. Гатэль размешчаны ў самым цэнтры беларускай сталіцы. Калі ўсё высвятляецца, кабета нібы апраўдваецца, што ў зман яе ўвяла нашая гамонка (міжасобку ж мы размаўлялі па-беларуску).

Недасведчанасць адміністратаркі ўспрынялі як рэдкі кур'ёз. Усё ж у Беларусі Браслаў вядомы. Прынамсі, калі не сам горад, то знакамітыя сваёй прыгажосцю Браслаўскія азёры. А вось за межамі Беларусі назву Браслава да якіх толькі краін не прыпісваюць, найчасцей да Польшчы, Чэхіі, Украіны (у гэтым адміністратарка гатэлю мела рацыю). У некаторых суразмоўцаў назва Браслава атаясамляецца са сталіцай Славакіі Братыславай, у Чэхіі ёсць гарады Бржэслаў і Збрэслаў, на Украіне - Брацлаў. Нехта згадвае, што сучасны польскі горад Вроцлаў, размешчаны ў Сілезіі, у пэўныя перыяды гісторыі знаходзіўся ў складзе нямецкіх княстваў і называўся Брэслаў. У славянскіх крыніцах назва пісалася "**Бреславль**", акурат так як беларускі Браслаў на старонках сярэднявечных дакументаў і хронік. Гісторыкі ведаюць, што гэты самы Браслаў быў месцам, дзе ў 1918 годзе выходзілі кніжкі, друкаваныя беларускай лацінкай. ( "Вайсковыя каманды па-беларуску", "Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным" ).

Не зусім дасведчанаму чытачу не так і проста разабрацца ў якім горадзе надрукаваны выданні, калі ўнізе на тытуле ён прачытае "**Breslau**". Калекцыя геаграфічных тапонімаў сугучных назве Браслава, якую збіраю здаўна, ужо налічвае больш за дваццаць адзінак. Пераважная большасць з іх размешчана ў Цэнтральнай Еўропе. Нядаўна яна папоўнілася новым цікавым прыкладам. Мой сябра, гісторык і археолаг Генадзь Семянчук, прывёз з Любляны працу па гісторыі Харватыі ў раннім сярэднявеччы, у якой згадваецца протадзяржаўнае ўтварэнне Браслава ("Braslava").




**На гэтай карце выразна відаць тэрыторыю даўняй дзяржавы Браслава**

З усіх "двайнікоў" нашага азёрнага Браслава найбольш блізкім па гісторыі з' яўляецца ўкраінскі Брацлаў на рацэ Паўднёвы Буг. Цяпер гэта невялікі гарадок, мястэчка Вінніцкай вобласці, а калісьці быў павятовым і ваяводскім цэнтрам Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, вызначаўся магутнымі замкавымі ўмацаваннямі. У гістарычных крыніцах XVI - XVII стст. горад згадваецца як "**Бреславль**", "**Брасловль**" - поўнае супаддзенне назваў у межах адной краіны. Сітуацыя небяспечная для дзяржаўнай канцылярыі - што, калі важнейшае распараджэнне трапіць (крый Божа!) не у той Браслаў? Вось і даводзілася пісарам удакладняць: "**повет Брасловля Подольского**", а для паўночнага двайніка: "**Браславль Литовский**", "**Завелски Брасловль**" і г.д. Пасля Люблінскай уніі 1568 г. Браслаў Падольскі адышоў ад Вялікага княства Літоўскага да Кароны. Пазней назва ўкраінскага горада стала ўсё часцей пісацца праз "**ц**" - Брацлаў і падстаў для блытаніны ў канцылярыях паменела. А вось гісторыкі да гэтай пары часам заблытваюцца. Абмяжуемся адным прыкладам. У шэрагу артыкулаў пра беларускі Браслаў можна знайсці звесткі, што горад моцна пацярпеў ад крымскіх татараў у 1550 г. Падзея сапраўды мела месца, толькі датычылася паўднёвага, падольскага Браслава, які быў у суседстве з небяспечным ворагам. Дарэчы пасёлак Браслаўка ёсць у Паўднёвым Урале (Арэнбургская вобласць). Сваю назву ён атрымаў у гонар украінскага Браслава. Побач размешчаны пасёлак Новавінніцкае.

Назва Браслава падабасцца многім. Адкуль жа паходзіць імя горада? - пытанне, якое найчасцей чуем ад гасцей. На гэты конт ёсць розныя меркаванні. адкладзем да пэўнага моманту навуковыя версіі, наколькі пераканаўчымі яны не былі б, цалкам задаволіць цікаўнасць гасцей ды і жыхароў горада яны не ў стане. Людзі імкнуцца да зразумелых і займальных тлумачэнняў, і ў нетрах фантазіі тубыльцаў нараджаюцца свае

незалежныя ад гістарычных рэаліяў, але даступныя шэраговаму абывацелю гісторыі. Некаторыя з іх аказваюцца вельмі жывучымі, пераказваюцца з пакалення ў пакаленне, набываюць статус твораў фальклору, іншыя з'яўляюцца ў пэўны час і хутка забываюцца, знікаюць, калі ніхто не парупіўся іх запісаць.

З паўтузіна такіх фантастычных твораў найбольш вядомя легенда пра каханне князя Браса да прыгажуні Дрывы, якое прынесла няшчасце для ўсіх яго герояў, але дала жыццё гораду пад гучнай назвай Браслаў. Легенду можна сустрэць у розных зборніках па беларускаму фальклору, існуюць вершаваныя варыянты на беларускай, польскай, рускай мовах.

*Даўным-даўно, між блакітных азёр, на блакітнай гары стаяў прыгожы ўмацаваны валам горад, пасярод якога ўзвышаўся замак. Жыў тут мудры князь Дзвін з жонкаю Друйкай і прыгажуняй дачкой Дрывай. Наравістай і ганарлівай была княжна. Шмат хто з дастойных жаніхоў дабіваўся яе рукі, але ўсе атрымалі адмову. Больш за ўсіх пакахалі Дрыву тры маладыя князі - браты Снуд, Ноў і Брас. Кожны з іх разлічваў дабіцца рукі княжны дачкі, а яна паабяцала аддаць перавагу таму, хто пераможа супернікаў. Распаліла маладая княжна зайздрасць і злосць у сэрцах Снуда і Нова. Дамовіліся яны паміж сабой забіць Браса. Познім вечарам падпільнавалі брата і напалі на яго. Нежывы ўпаў той на зямлю. Аднак толькі адзін з забойцаў мог стаць выбраннікам прыга-жуні, і зноў зазвінелі мячы, зноў пралілася кроў. У бязлітаснай сечы загінулі абодва, так і не даве-даўшыся, што не Браса забілі яны, а яго слугу, не пазнанага ў цемры. Застаўся жывым Брас, але не пайшоў ён да княжны, асудзіў яе жорсткае сэрца. Не знесла той крыўды Дрыва і кінулася з вежы замка ў возера. У хуткім часе памерлі Дзвін з Друйкай. Стаў тады князь Брас уладаром замка, княжыў доўга і справядліва, і засталося яго імя ў назве горада навек. Аб іншых жа героях легенды - Дзвіне, Друйцы, Дрыве, Снудзе, Нове - нагадваюць назвы навакольных рэк і азёр.*

На браслаўскім гарадзішчы можна ўбачыць скульптурную кампазіцыю, у якой увасоблены героі падання. Неяк давялося падслухаць размову дзятвы, якая бавіла час у адзін з летніх дзён ля скульптур. Разглядаючы фігуру князя Браса, хлопчык 14-15 гадоў заўважыў, што назву Браслаў можна расшыфраваць як "каханне Браса", толькі для гэтага трэба згадаць, што ў англійскай мове слова "love" азначае каханне. Браслаў - гэта месца, дзе князь зведаў няшчаснае каханне, а пазней - горад, які ён шчыра любіў і дзе скончыў свой век. Рэдкі выпадак прысутнічаць пры нараджэнні новага падання. Адзначым, што скажам у XIX ст. такая версія сярод мясцовых жыхароў нарадзіцца не магла.

А як вам спадабаецца такое тлумачэнне: частка "брас" паказвае, што ў акаляючых Браслаў азёрах можна плаваць (канешне ж брасам!), частка "лаў" паходзіць ад слова "лава". Паколькі ў хаце лава заўсёды стаіць у пэўным месцы, то назва Браслава можа быць расшыфравана як месца, дзе можна плаваць.

Трапіў Браслаў і ў жартаўлівы "антынавуковы трактат" паходжання назваў гарадоў Беларусі "Аб мястох крывіцкіх праўда", аўтар якога заняўнівае чытача: "*Калі прыйшоў у наш край рымлянін Палямон, быў паміж ягоных вояў адзін на імя Брас (а звалі яго так, бо ён брасам плаваць любіў). Пабачыў ён тутэйшых дзевак і сказаў: "Уга". А дзеўкі ў адказ: "Вось табе і уга". Так ён і застаўся тут, заснаваў з гэтымі дзеўкамі горад, які так і назвалі - Браслаў.*"

Верагодней за ўсё нядаўняга паходжання легенда, зафіксаваная ў 1990 г. Г.Семянчуком: "*Калісьці праз тутэйшыя мясціны праходзіла войска пад камандаваннем генерала. Падышло войска да броду, што на пратоцы паміж азёрамі Дрывяты і Навята. Каб пераправіць важнага начальніка, сталі салдаты ў ланцуг. Перадаюць генерала з рук ў рукі і перагукаюцца ў густым тумане: "Брасай, брасай!" Потым непадалёку ад пратокі паўстала паселішча і назвалі яго Браслаў.*"

У 1864 г. Браслаў наведаў маскоўскі мастак, археолаг Дз. Струкаў, які вандраваў па тагачаснаму Паўночна-Заходняму краю з заданнем вышукваць і фіксаваць сляды даўняга праваслаўя. У падарожных нататках мастак пакінуў запіс: "*Есть предание, сообщенное в местечке священником, что князья литовские, приезжая часто на охоту в окрестные места, где ныне местечко Бресловль, заросшие тогда дремучим лесом, имеющие множество озер, основали город Бресловль. Евреи рассказали свое предание, что город назывался не Бреславль, а Преславный. Это название будто бы между евреями стариками до сего времени сохраняется.*"

Сучасны філолаг А. Ненадавец аўтар кнігі "Віцебшчына ў легендах і паданнях" выводзіць назву Браслава ад слоў "брату слаў" (Братслаў - Браслаў). Гэта даволі доўгая, са складаным сюжэтам легенда, у аснове якой не народная, а аўтарская фантазія, распавядае пра гісторыю двух братоў Сцяпана і Івана. Адзін з іх быў забіты злодзеямі і пахаваны недалёка ад горада.



Беларуская кніжка на лацінцы. Месца выдання - Брэслаў



Рэчка Браслава ў Латвіі. Паштоўка выдадзена ў Рызе ў перыяд II-й сусветнай вайны

Што да навуковых версій паходжання назвы горада, іх дзве, і ў адрозненне ад легенд наўрацце стане болей. Магчыма Браслаў - назва патранімічнага паходжання, гэта значыць звязана з канкрэтным мужчынскім імем (верагодней за ўсё, большасць двайнікоў Браслава на славянскіх землях мае падобнае паходжанне). Шмат якія гісторыкі сцвярджаюць, што горад пераняў імя полацкага ўладара Брачыслава Ізяслававіча. Князь Брачыслаў (? - 1044), унук славутай Рагнеды і Уладзімера Свяціцеля, прадстаўнік дынастыі Рагвалодавічаў, займаў полацкі трон больш за 40 гадоў. Пры ім узрасла магутнасць княства, пашырыліся яго тэрыторыі. Як сведчаць археалагічныя матэрыялы, Браслаў стаў парубежнай полацкай

крэпасцю ў палове XI ст. Магчыма князь Брачыслаў меў непасрэднае дачыненне да заснавання ўмацаванага паселішча на балцка-славянскім парубежжы, якому ў спадчыну засталося яго імя (**Брячьслав - Брячьславль - Бряславль - Браславль - Браслаў**). Археолаг і гісторык Л. Аляксееў звярнуў увагу на існаванне некалькіх паселішчаў з падобнай назвай, размяшчэнне якіх прыблізна супадае з былымі межамі княства. Сярод іх: "**Браславо**" і "**Бряслов**" - на захадзе былой Віцебскай губерні (сучасная Латгалія), "**Брославль**" - у былым Аршанскім павеце Магілёўскай губерні. На думку даследчыка да заснавання ўсіх гэтых паселішчаў мог прычыніцца Брачыслаў. Распаўсюджанна сцвярджэнне, што "**Брячиславль**" - гэта летапісная форма напісання назвы Браслава. Аднак насамрэч ні ў летапісах (хроніках) XV-XVI стст., ні ў сярэднявечных дакументах Браслаў так не пісаўся. Найчасцей ужываліся варыянты: "**Бряcловль**", "**Бряславль**", "**Бряслявль**" і падобныя. Толькі ў кнізе гісторыка А. Гваніні "Хроніка Еўрапейскай Сарматыі" (першае выданне 1578 г.) сустракаецца „**Bratyslaw**". Можа адсюль бярэ пачатак "**Брячиславль**", так часта ўжываемы ў выданнях XIX - пачатку XX ст., а пазней і ў беларускіх публікацыях.

Што і казаць, лічыць сябе нашчадкамі славутага імя гонар для жыхароў Браслава. Брачыслаў Ізяслававіч - адна з найбольш яскравых постацей у гісторыі Полацкага каняства. Гісторыкі ўважаюць князя за мудрага, разважлівага ўладара, гнуткага палітыка, які здолеў адрадзіць незалежнасць Полацкага княства, дабіцца ўзмацнення дзяржавы ў барацьбе з Кіевам. У спадчыну свайму сыну, легендарнаму Усяславу Чарадзею, князь перадаў магутную краіну. Удвох, Брачыслаў і Усяслаў, трымалі полацкі стол цэлае стагоддзе - факт безпрэцэндэнтны ў тагачаснай гісторыі.

Можа не настолькі прывабнай, але напэўна больш абгрунтаванай, з'яўляецца другая, балцкая версія паходжання назвы Браслава. Арыентавацца трэба на сучаснае латвійскае слова "**brasls**", што ў перакладзе азначае "**брод**", "**мелкаводдзе**". Старажытнае браслаўскае гарадзішча, на якім жылі першыя жыхары паселішча, размешчана непадалёку ад пратокі паміж азёрамі Дрывяты і Навята. Яшчэ на пачатку XX ст. праз гэту пратоку перабіраліся ўброд. Да таго, археолагі высветлілі, што тубыльцамі гарадзішча напачатку былі не славяне, а балты (верагодней за ўсё латгалы). Браслаў (па-латвійску - Braslava) - паселішча ля броду.

Тапонім Браслава пашыраны ў суседняй Латвіі. Да прыкладу:Браслава - вёска, цэнтр воласці ў Лімбажскім раёне на паўночным захадзе краіны (дарэчы, наваколле вёскі багата на рэкі і азёры), у гэтым жа рэгіёне працякае рака Бnative, прыток знакамітай Гаўі, Браслава - хутар у Краслаўскім раёне (побач размешчана пратока паміж азёрамі Сіверс і Ардавас), Браслава - вёска ў Балвінскім раёне на памежжы з Пскоўшчынай, Браслава - рака, прыток Айвікстэ, Браслас - возера. Існуе таксама звыш дзесятка драбнейшых тапонімаў з асновай "брасла". Так, балцкая версія выглядае вельмі пераканаўчай. Калі ж не хочацца адмаўляцца ад прэстыжнай "княжацкай", можна паспрабаваць прымірыць абедзве. Латгальскае паселішча, якое ўзнікла на некалькі стагоддзяў раней насіла балцкую назву Браслава. Славяне-крывічы перанялі яе, як пераймалі назвы дзесяткаў азёраў і рэк, толькі трошкі перайначылі, прыдалі форму "**Бряславль**". Пазней пад уплывам беларускай мовы "**р**" стала цвёрдай. Цікава, што сярод стараверскага насельніцтва Браслаўшчыны да гэтай пары можна пачуць: "Бряслав", "Бряславье".

Сучасная беларуская форма напісання назвы горада бярэ пачатак з першых беларускіх газет пачатку XX ст., дзе можна знайсці варыянты: "Браслаў", "Браслаўе", "Браслаў-беларускі".

Прывабнай, адметнай, прыцягальнай можа быць не толькі назва горада, але і мясцовая тапаніміка - тыя назвы, якімі абдарылі мясцовыя жыхары звыклыя для іх аб'екты. Да таго ж мясцовая тапаніміка можа быць афіцыйнай (да прыкладу назвы вуліцаў, плошчаў) і неафіцыйнай, якая жыве пераважна ў вуснай перадачы.

Браслаў - гарадок невялікі, але пласт мясцовай тапанімікі, у першую чаргу неафіцыйнай, даволі цікавы і багаты. Паселішча размешчана на ўзгорыстай мясцовасці, многія пагоркі маюць свае ўласныя назвы. У межах Браслава самы адметны пагорак - гарадзішча Замкавая гара ці проста Замак. Назва вядомая і сярод мясцовых жыхароў і сярод гасцей горада. У дакументах назва як абазначэнне не ўласна ўмацаванняў, а пагорка, часткі паселішча, сустракаецца з XVIII ст. На паўноч-




**Гэты Браслаў у Краслаўскім раёне Латвіі таксама размешчаны ля пратокі паміж двума азёрамі**

най ускраіне Браслава вылучаецца Святая Гара, у зімовую пару - любімае месца забаў мясцовай дзятвы. Стромкія схілы пагорка спускаюцца да азёраў Бярэжжа і Святцо. Паводле падання на вяршыні гары знаходзілася ў даўнія часы язычніцкае ці паганскае свяцілішча, у цэнтры якога стаяла фігура каменнага стода. Пры канчатковай перамозе хрысціянства над паганствам свяцілішча разбурылі, а стод скацілі па схілу ў возера. Спачатку стод пакаціўся ў бок большага возера, потым змяніў кірунак і неўзабаве знік ў глыбінях маленькага азярка. З тае пары азярко назвалі Святцо. Пра паганскае свяцілішча згадвае назва пагорка. Выказваюцца меркаванні, што з даўнімі паганскімі культамі магла быць звязана Лысая Гара - высокі пагорак каля заходняй ускраіны Браслава. Яго ўдалося залясіць толькі ў 20 стагоддзі, да гэтага на пясчанай вяршыні летам не расла нават трава. Побач з гарой знойдзецца група курганоў, паходжанне якіх не высветлена. Пры раскопках аднаго з іх знойдзены рэшткі каня. У падэшвы Лысай Гары размяшчаўся лясны масіў пад назвай Чырвоны Бор. Цяпер пагорак і наваколле заняты больш маладым сасновым лесам, але дзе-нідзе можна ўбачыць велізарныя векавыя дрэвы. Сярод пагоркаў

усходняй часткі Браслава вылучаецца Скур'ятова Горка. У яе падэшвы разыходзяцца дарогі на Друю і Іказнь. На схілах і навокал - шчыльная забудова, але калі здолееце дабрацца да вяршыні - не пашкадуеце. Як на далоні возера Дрывяты, азёрны перашыек, у які ўпіраецца Замкавая Гара. Вяршыня адкрыта ўсім вятрам. У пачатку XX стагоддзя тут быў збудаваны вялізны млын-вятрак. Яго крылы весела махалі падарожным, вітаючы тых, хто кіраваўся ў мястэчка і развітваўся з гасцямі, што вярталіся ў навакольныя хаты.. Як прыгожа глядзеўся вятрак у азёрным краявідзе! У 40-я гады яшчэ стаяла на пагорку прыкметная буданіна, толькі з адламанымі крыламі.. Скур'яты - гэта ўладальнікі млына.

Ёсць яшчэ ў Браславе горы, толькі яны не такія вядомыя і адметныя, таму абмяжуемся іх назвамі: Казловая Горка, Пясчаная, Гняздо Ластаўкі, Пікстал (гэтай назвай мясцовыя жартаўнікі надзялілі самы высокі пагорак на ўсходзе Браслава. Пікстал - гэта пік Сталіна. Ужывалі назву асцярожна, з аглядкай, бо яе маглі палічыць за знявагу).

Да паловы XX ст. тэрыторыя Браслава ахоплівала бліжэйшае наваколле Замкавай Гары, была даволі кампактнай. Паступова гарадок разбудаваўся, яго сялібная, аднапавярховая з абавязковым кавалкам зямлі забудова, раздавалася ўшыр. Браслаў злучыўся з некаторымі навакольнымі вёскамі. Вёскі сталі часткай горада, а іх назвы зараз актыўна ўжываюцца жыхарамі. Усходняя чатка Браслава ў кірунку да Іказні вядома як Заборныя гумны ( у пачатку 30-х гадоў XX ст. вёска з такой назвай налічвала 31 двор, 192 жыхары). Занавяцкія Гумны - гэта кавалак гарадской тэрыторыі на паўночным беразе возера Навяты. Да 40-х гадоў мінулага стагоддзя жыхары гэтай вёскі мелі непадалёку ад цэнтра мястэчка кавалкі зямлі, пазней забудаваныя. Пэўны час участак зваўся Гуменікі. Цяпер назвы Занавяцкія гумны ды Загуменікі вядомы бадай толькі старажылам. Але затое Заборныя Гумны вядомы ўсім гараджанам. На паўночна-усходняй ускраіне Браслава каля дарогі на Слабодку знаходзіцца былая вёска Княжына. Размешчаная побач нізіна, прымыкаючая да возера Навята - Княжын Луг. Паданні звязваюць гэтыя назвы з княгіняй Аленай, якая валодала Браславам у пачатку XVI ст. Заходняя частка Браслава - Леснічоўка. У пачатку XX стагоддзя ў сасновым бары на беразе возера Бярэжжа ці пазней Леснічоўскага, у двух кіламетрах ад мястэчка, была збудавана леснічоўка. Цяпер тут цэлы пасёлак жылых дамоў, галоўны офіс і іншыя структуры Нацыянальнага парка, новы бальнічны комплекс, летняя эстрада. Леснічоўкай называецца і лесапаркавая зона вакол.

Большая частка насельніцтва Браслава жыве ў мікрараёне шматкватэрнай забудовы, якая сфармавалася на поўначы. Да 60-х гадоў мінулага стагоддзя на гэтай слабаўзгорыстай пясчанай тэрыторыі знаходзіліся зямельныя надзелы гараджан, ды пусткі. Застаецца загадкай чаму мікрараён атрымаў назву Юдаўка. Ужываецца яна неафіцыйна, але паўсюдна. Вядома толькі, што да вайны адна з вулачак у цэнтры мястэчка, заселеная яўрэямі, неафіцыйна называлася Юдаўкай. На поўнач ад Юдаўкі, ужо за межамі гарадской тэрыторыі знаходзіцца Вялікае Поле - раўнінны ўчастак акружаны лесам. У XIX - пач.XX стагоддзя - гэта абшчыннае поле для выпасу жывёлы местачкоўцаў.

Самую вялікую групу складаюць назвы вуліц і завулкаў. У Браславе іх налічваецца больш за 130. Нажаль адметнасцю яны не вылучаюцца. Значная частка назваў звязана з ідэалогіяй былой савецкай дзяржавы і з'яўляецца тыповай. Да XX стагоддзя Браслаў не меў развітай сеткі вуліц, таму і гістарычны пласт назваў не такі багаты. Першае падрабязнае апісанне мястэчка, праведзенае ў 1554 г. пералічвае ў Браславе 4 вуліцы і Рынак. Толькі адна вуліца ў дакуменце названа імем уласным - вуліца Вялікая. Яна праходзіла ўздоўж берага возера Дрывяты і была цэнтральнай. На ёй размяшчалася палова са 120 дамоў тагачаснага горада. Апісанне 1649 г. дадае Іказненскую і Радскую вуліцы. У дакументах XVIII ст. згадваюцца такія вуліцы, як Замкавая, Старамеская, Станіславаўская, Новы Свет. Назвы сталічныя, Варшаўскія! Кур'ёз у тым, што ў той час Браслаў меў ледзьве тысячу жыхароў. У выніку драматычных падзей канца XVIII ст. горад быў разбураны, страціў і гарадскі статус, і ролю павятовага цэнтра, і значную частку жыхароў. На планах XIX ст. ў Браславе пазначана толькі адна вуліца - Вялікая (іншыя вуліцы і завулкі пачалі фармавацца напрыканцы XIX ст. У дакументах Браслаўскага рэўкома за 1918-1919 гады згадваюцца вуліцы Садовая, Дзвінская, Нарбутаўская. Апошняя атрымала назву ў гонар мясцовага таленавітага лекара, грамадскага дзеяча Станіслава Нарбута (1853-1926 ). Вуліца Нарбутаўская з'явілася ў Браславе напярэдадні першай сусветнай вайны пры жыцці лекара (і гэта ўнікальны выпадак!). У 20-30 гады, калі Браслаў зноў стаў цэнтрам павета, гарадок стаў імкліва развівацца. У канцы 30-х гадоў налічвалася каля 5 тысяч жыхароў, сфармавалася звыш 20 вуліц і завулкаў. Вуліца Вялікая атрымала імя Пілсудскага. Другая па значнасці вуліца, якая агінала гарадзішча Замкавая Гара, называлася 3-га Мая, у гонар прагрэсіўнай канстытуцыі 1791 года. З ідэалогіяй польскай дзяржавы былі звязаны назвы вуліц імя Т.Галуўкі, Легіянераў, Л. Жэлігоўскага. Рэшта назваў насіла нейтральны характар - Замкавая, Іказненская, Горная, Падгорная, Старасцінская, Пясчаная, Чыгуначная, Паштовая, Цагельная, Спартыўная, Могілкавая, Рынак. Побач з Нарбутаўскай вуліцай з'явіўся Нарбутаўскі завулак. У снежні 1939г. новая савецкая адміністрацыя прыняла рашэнне аб перайменаванні большай часткі назваў вуліц. Вуліца Ю. Пілсудскага стала Ленінскай, Л. Жэлігоўскага - К. Маркса, Легіянерная - Чырвонаармейскай, 3 Мая - Савецкай, Нарбутаўская - С. Кірава, Пясчаная - 8 Сакавіка, Піроцкага - Ф. Дзяржынскага, Іказненская - Камсамольскай, Старасцінская - К. Лібкнехта, Т. Галуўкі - Ф. Энгельса, Навяцкая - Піянерскай і г. д.

Лічаныя вуліцы сучаснага Браслава маюць сувязь з гісторыяй горада. Захаваліся назвы вуліц Горная, Замкавая, Чыгуначная, Цагельная і завулкаў: Падгорны, Замкавы. У час святкавання 900 годдзя Браслава з'явілася вуліца Юбілейная (да 1965г. - Вакзальная). Імя С.Нарбута атрымала невялікая новая вулачка на ўскраіне горада, якую складана знайсці нават на плане. Ёсць у Браславе вуліцы братоў Васілеўскіх (арганізатары і кіраўнікі антыфашысцкага падполля), П.Булойчыка (кіраўнік падпольнага райкома партыі), В.Юрэнкі (кіраўнік падпольнага райкома камсамола). Прыемна гучаць і такія назвы, якія пасуюць да прыроднага атачэння Браслава: Муражская, Дрывяцкая, Набярэжная, Азёрная, Пясчаная, Садовая, Зялёная, Лясная, Слабодская, Дачная, Турысцкая, Сасновая. Магчыма прыйдзе той час, калі ўся гарадская тапаніміка стане больш адметнай, цікавай, сугучнай меладычнай назве Браслава.

Кастусь Шыдлоўскі

# БРАСЛАЎСКІЯ ШЛЯХІ. ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

У гісторыі любога паселішча важную ролю адыгрываюць шляхі зносін. Стратэгічныя шляхі, гандлёвыя гасцінцы маглі стаць асноўнымі прычынамі росквіту мястэчка ці горада. Браслаў заўсёды знаходзіўся ўбаку ад важнейшых шляхоў зносін, ніколі не быў значным рамесным ці гандлёвым цэнтрам. У сярэднявеччы праз Браслаў прайшлі два гасцінцы, якія мелі рэгіянальнае значэнне: Рыжскі гасцінец праходзіў з усходу на захад, Віленскі – з поўначы на поўдзень. У Браславе яны перакрыжоўваліся. Часамі значэнне гэтых шляхоў узрастала, але не настолькі, каб паўплываць на развіццё Браслава. Паглядзім на браслаўскія шляхі вачыма назіральніка канца XVIII – пачатку XIX стст. Вось фрагмент апісання канца XVIII ст.: "*Гасцінец Рыжскі ідзе з Русі і ад мястэчка Глыбокае праз Ахрэмаўцы ... пакідаючы на левы бок палац і касцёл* (**маёнтак Бяльмонты – рэд.**)*, таксама як і возера Дрывяты. Потым пралягае праз Шакурскі мост на рацэ Друйцы, каля возера Цно, якое ляжыць праваруч, і цягнецца сярод пясчаных пагоркаў да Браслава. З Браслава каля возера Дрывяты, каля карчмы і вёскі Красная ... праз вёскі Зазоны, Міхалішкі, Урбаны, Пляўшкеты, дзе мытня Яго Каралеўскай міласці на мяжы з Курляндыяй.*" З боку Полацка на Рыжскі гасцінец можна было трапіць праз Іказнь: "*Дарога з Іказні да Браслава напачатку абкапана неглыбокімі равочкамі і абсаджана дрэўцамі... Мінуючы паплаўны мост на рацэ Друйцы і карчму пры ім, падарожны трапляе на вяршыню гары, адкуль бачна возера Браслаўскага касцёла* (**воз.Навята – рэд.**)*, базыльянскі кляштар, царкоўка на востраве. Тут жа непадалёку, на высокай гары млын-ветрак. Па левы бок гара месцамі сасняком, а месцамі беразняком зарасла. Напрыканцы дарога гарыстая і пясчаная да самага Браслава.*"

Участак Віленскага гасцінца ў наваколлі Браслава апісваўся такім чынам: "*Гасцінец ад Опсы да Браслава добры і нядаўна абкапаны з двух бакоў раўкамі, падрамантаваны, месцамі спрамлены ... Праходзіць каля Баравіцкай карчмы Мануцы, каля вёскі Мізерыкі, праз мост на рацэ Бужанцы, якая ўпадае ў Дрывяцкае возера* (**Рацкі мост – рэд.**)*. Праваруч цягнецца возера Дрывяты, з левага боку – вёска Пузыры, потым Краснасельцы і мястэчка Браслаў. З Браслава праз пераправу на рацэ Друйцы гасцінец ідзе берагам возера Несніт, каля кляштара, праз вёску Шавуры, мост Рацюны да Слабодкі.*"

Як бачым, у наваколлі Браслава падарожны ніяк не мог абмінуць мастоў, пераправаў, корчмаў пры іх, ды пагоркаў.




**Карчма пя Браслава.**
***Малюнак Дз.Струкава. 1864 г.***

Браслаўскі ўчастак Віленскага гасцінца некалькі дзесяцігоддзяў меў даволі важнае значэнне ў арганізацыі паштовай сувязі. Напрыканцы XVIII ст. пасля далучэння рэгіёна да Расійскай імперыі праз Браслаў прайшоў паштовы тракт Санкт-Пецярбург – Вена. У дакументах пачатку XIX ст. згадваецца адзін з кірункаў Беларускага паштовага тракта: Санкт-Пецярбург – Пскоў – Себеж – Друя – Браслаў – Відзы – Вільня – Ліда – Гродна.

У апісаннях Браслава пачатку XIX ст. згадваецца паштовы двор ці станцыя. У 1812 г. напярэдадні вайны з Напалеонам Браслаўская станцыя павінна была атрымаць дадаткова 24 коні. Узмацняліся і іншыя станцыі, каб сувязь паміж сталіцай і Вільняй дзейнічала надзейна. Дадатковую колькасць коней павінна была забяспечыць мясцовая шляхта, прычым улады патрабавалі: "*...сии лошади должны быть крепки, здоровы, способны, средних лет, немалорослые и отнюдь не из обыкновенных мужицких*".

Перад пагрозай Напалеонаўскага нашэсця ўзрасло ваеннае значэнне дарог на захадзе імперыі, у тым ліку і браслаўскага ўчастка Віленскага гасцінца. Гэты ўчастак яшчэ ў 1811 г. быў прызнаны "*удобным для прохода войск*". У лютым 1812 г. дарога ўвайшла ў склад ваеннага тракта Санкт-Пецярбург – Друя Браслаў – Відзы – Вільня. У Браславе быў прызначаны вайсковы начлег.

На якасці дарогі арганізацыя тракта, відаць, не адбілася. Увесну 1812 г. ваенны міністр Расіі Барклай дэ Толі звярнуў увагу на дрэнны стан гасцінца на Браслаўшчыне. Неўзабаве пачалася вайна. Перасоўванне па Браслаўшчыне вялізнай колькасці войск і абозаў значна пагоршыла стан дарог. Гэта адзначаюць як расіяне: "*войска и лошади от дурных дорог пришли в полную усталость*" (з ліста імператара Аляксандра І, напісанага ў м.Іказнь), так і французы: "*марш (ад Браслава да Дзісны) быў надзвычай цяжкім. Ён праходзіў па дарогах, пракладзеных на драўляных насцілах сярод балот і разбітых бясконцымі калонамі войскаў*" (з успамінаў маёра фон Каўслера).

**« ПАВЕТ »** **DISTRICTUS**
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)